© PDF: Kamunikat.org 2023 © PDF: Kamunikat.org 2023


# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

№ 50 (929) ГОД XVIII БЕЛАСТОК 16 СНЕЖНЯ 1973 г. ЦАНА 60 гр.


# ІМЕМ ГЕНЕРАЛА А. ВАШКЕВІЧА

18 лістапада ў Белавежы быў дзень урачысты. У гэты дзень Лясны тэхнікум і галоўная вуліца Белавежы (Стачок) атрымалі імя генерала Аляксандра Вашкевіча, ураджэнца гэтай асады, удзельніка Кастрычніцкай рэвалюцыі, Героя Савецкага Саюза, выдатнага арганізатара і камандзіра Войска Польскага. На ўрачыстасць прыбылі прадстаўнікі цэнтральных і мясцовых улад: намеснік кіраўніка сельскагаспадарчага аддзела ЦК ПАРП — Р. Стахурка, намеснік міністра асветы і выхавання генерал дывізіі З. Гушча, камандуючы Варшаўскай вайсковай акругай генерал дывізіі У. Аліва, намеснік міністра лясніцтва і драўнінннай прамысловасці В. Барташэвіч, сакратар Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку Я. Златажынскі, намеснік старшыні Прэзідыума ВРН у Беластоку У. Міхалюк, старшыня ваяводскага камітэта Фронту адзінства народу — С. Кудла, куратар беластоцкай школьнай акругі Э. Крынскі, дырэктар акруговага ўпраўлення лясоў Я. Сасноўскі, шэф ваяводскага вайсковага штаба палкоўнік З. Катоўскі і інш.

Цырыманіял „хрышчэння“ ляснога тэхнікума праходзіў вельмі ўрачыста. Аркестр іграў дзяржаўны гімн і гімн сусветнай федэрацыі дэмакратычнай моладзі, быў узняты сцяг. З прамовамі выступілі генералы У. Аліва і З. Гушча, намеснік міністра В. Барташэвіч, палкоўнік вышэйшай самахадовай школы імя генерала Аляксандра Вашкевіча ў Піле Б. Кудзя і вучань тэхнікума Я. Ясінскі.

Акт прысваення школе імя генерала Аляксандра Вашкевіча прачытаў дырэктар дэпартамента кадр і прафесіянальнай адукацыі ў міністэрстве лясніцтва і драўніннай прамысловасці М. Война.

Дырэктар тэхнікума Т. Макшыцкі вітаў гасцей, прыняў школьны сцяг ад лясной службы Беласточчыны, а таксама дакумент прызнання школе ганаровага грамадзяніна горада Фрамборка. Шэраг настаўнікаў тэхнікума на чале з дырэктарам атрымалі медалі „За Заслугі ў абароннасці краіны“.




*Лясная служба ўручыла дырэктару тэхнікума сцяг для школы.*



*З дакладам выступае генерал У. Аліва.*

⁂

Другая частка ўрачыстасці адбылася ля помніка загінуўшым у час нямецкай акупацыі. З прамовай выступіў тут I сакратар КП ПАРП у Гайнаўцы Л. Бартосяк, а старшыня ГРН у Белавежы З. Новак прачытаў пастановы ГРН аб перайменаванні вуліцы Стачок на вуліцу генерала Аляксандра Вашкевіча. Затым адбылася „пераклічка“ загінуўшых. Урачыстасць закончылася ганаровым салютам.

Тэкст і фота

**М. Хмялеўскага**

## ХРОНІКА БГКТ

У другой палавіне лістапада ў многіх гуртках БГКТ на Беласточчыне адбыліся справаздачныя, а ў некаторых — справаздачна-выбарныя сходы, на якіх былі абмеркаваны далейшыя напрамкі культурна-асветнай дзейнасці.

■ Нядаўна адбыўся справаздачна-выбарны сход у Саках на Бельшчыне, на якім вырашана было падрыхтаваць дзве беларускія п'есы — „Боты“ і „Міхалка“ — і прыняць удзел у аглядзе тэатральных калектываў БГКТ. У склад новага праўлення гуртка ўвайшлі Тамара Паўлючук — старшыня, Ніна Ясвіловіч — сакратар і Яўгень Паўлючук — скарбнік.

■ На справаздачным сходзе ў Сухінічах на Сакольшчыне члены БГКТ вырашылі арганізаваць „куліг“ да гуртка БГКТ у Новым Востраве і выступіць там са сваёй мастацкай праграмай.

■ Гурток БГКТ у Гуранах (Сакольскі павет) у студзені арганізуе навагоднюю ёлку і на гэтую ўрачыстасць падрыхтуе п'есу „Сынок“.

■ Новае праўленне выбраў таксама гурток БГКТ у Малінніках у наступным складзе: Анна Іванчук, Раіса Аверчук і Вера Іванюк.

■ Гурток БГКТ у Плёсках узяўся за падрыхтоўку сцэнак „Сямейны вечар“, „Можа, мы самі“ і „Гагатуха“. Члены БГКТ ў Пасынках рыхтуюць п'есы „Суд“ і „Валодзеў гальштук“, а бэгэкатоўцы з Парцава ў студзені выступяць на мясцовай сцэне з пастаноўкай „Мікітаў лапаць“. Гурткі гэтыя працуюць у Бельскім павеце.

■ На сваім справаздачным сходзе гурток БГКТ у Новым Востраве, што на Сакольшчыне, выступіў з прапановаю арганізаваць баль-маскарад і запрасіць на яго членаў БГКТ з Паўднёвага і Паўночнага Вострава.

■ Нядаўна адбыліся выбары новага праўлення гуртка БГКТ у Кошках (Бельскі павет). Старшынёй там цяпер — Аліцыя Фёнік, сакратаром — В. Мацкевіч і скарбнікам — М. Плуг.

■ У Крушынянах на Сакольшчыне ўдзельнікі справаздачна - выбарнага сходу выбралі новае праўленне гуртка на чале з настаўніцай Раісай Філіпюк.

■ У лістападзе справаздачныя сходы адбыліся таксама ў Вульцы і Плюцічах, што на Бельшчыне.

■ 30 лістапада гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку арганізаваў вечарыну, звязаную з народным звычаем варажэння на „Анджэйкі“. Весела гуляла на ёй моладзь з харавога калектыву і танцавальнай групы, якія існуюць пры аддзеле.

■ Старшыня Галоўнага праўлення БГКТ Мікалай Самоцік 1 снежня спаткаўся з членамі Беларускага таварыства (налічваецца іх 40 чалавек) у вёсцы Стары Корнін на Гайнаўшчыне. Расказаў ён ім аб рэформе рад нарадовых і аб планах працы ГП БГКТ, а таксама адказваў на шматлікія пытанні прысутных. Падобнае спатканне са старшынёй ГП адбылося 2 снежня ў гарадскім аддзеле БГКТ у Беластоку. (мх)

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ“

**З размовы аб Белавежы ● Родная мова дапамагае ● „Курпям зялёным“ дваццаць год ● Пра жыццё-быццё, пра колішняе ● Гапка-раскольніца ● Калі „хуткая дапамога“ хвораму дапамагчы паспее? ● І так бывае ● Будаўнічыя парады ● Дзіўныя дзівы ● Весткі з Старога Корніна, Бацікаў, Бельска, Бандароў, Доўгага Броду, Азяблаў, Дубіч Царкоўных і інш. ● Песня „Не плачь, девчонка“.**

## ЯК ЦЯРЭШКА КАЛАБОК ЗАВАЯВАЎ ПОЛЬШЧУ

Галоўны герой Макаёнкавага **„Трыбунала“** Цярэшка Калабок паспяхова заваяваў прыхільнасць у жыхароў розных гарадоў нашай краіны. Пачалося ў Беластоку. Калі на сцэне тэатра паяўлялася сімпатычная сям'я беларускага селяніна Калабка, тэатр заўсёды быў запоўнены гледачамі. Пасля героя ў „Трыбуналу“ сардэчна віталі ў гарадах і пасёлках Беластоцкага ваяводства. Сапраўдны патрыятызм і гуманнасць гэтай п'есы ў спалучэнні з вострым, народным гумарам выклікалі глыбокія рэфлексіі і шчыры смех.

У чэрвені гэтага года Беластоцкі тэатр выступіў з „Трыбуналам“ у Торуні на Фестывалі тэатраў паўночнай Польшчы. Выступіў паспяхова. Літаратурны загадчык беластоцкага тэатра і адначасова перакладчык на польскую мову Макаёнкавай п'есы **Лех Пятроўскі** адзначае:

— Прыемна было глядзець, калі публіка шчыра і доўга апладзіравала нашым артыстам. Журы торуньскага фестывалю ўзначальвала ў гэтым годзе Крыстына Скушанка. Гэта вядомы і аўтарытэтны дзеяч польскага тэатра. **За пастаноўку „Трыбунала“ журы пад яе кіраўніцтвам прысудзіла Беластоцкаму тэатральнаму калектыву аж дзве ўзнагароды: адну рэжысёру Збігневу Бессерту, другую — Вітальду Галонзку,** які выконваў галоўную ролю Цярэшкі Калабка. Водгукаў нашага выступлення ў Торуні было ў польскім друку нямала. Дагэтуль я налічыў штук 10 газетных нататак і болей абшырных рэцэнзій. Усе яны былі прыхільнымі для нашага

**(Працяг на стар. 4)**

© PDF: Kamunikat.org 2023 © PDF: Kamunikat.org 2023

